Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

7 верасня 2018 года №36 (1219)









# «Хачу, каб у дачкі была прыгожая мама»



## Жыхарка Маладзечна расказала, як за два гады скінула сорак кілаграмаў

старонка 20

Фота забяспечанае Дыянай ПРЫВАЛІНСКАЙ.

ISSN 1991–7155
9 771991 715006 36

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У Маладзечанскім райвыканкаме – новы старшыня

старонка 2

## У Маладзечне пачаў працу клуб для тых, хто хоча палепшыць горад

МАЛАДЗЕЧНА

**Адукацыйны цэнтр «Адкрытая прастора» распачаў серыю сустрэч для маладзечанцаў у фармаце дыскусійнага клуба. Далучыцца можа любы ахвотны, каму важна зрабіць горад больш утульным і хто гатовы паляпшаць яго сам.**

Першая сустрэча прайшла ў суботу, 1 верасня. Удзельнікі пазнаёміліся, расказалі пра тое, чаму вырашылі далучыцца. Аб'ядноўвала прысутных тое, што кожны гатовы не толькі абмяркоўваць, чаго не хапае гораду, але і працаваць на тое, каб гэтыя хібы выправіць.

Госці абіралі самыя балючыя для сябе асабіста праблемы і разважалі, з чаго можна пачаць, каб паляпшаць горад. Выпрацавалі некалькі накірункаў, па якіх можна ўжо пачынаць працу. Ахвотныя далучацца да таго, які цікавы ім, і плануюць, якімі крокамі будуць паляпшаць сітуацыю.

Сярод накірункаў, па якіх плануюць збірацца ўдзельнікі:

- інклюзіўны праект. Напрыклад, правядзенне інклюзіўных гульняў для моладзі. На такіх мерапрыемствах удзельнікі з асаблівасцямі развіцця прымаюць удзел на роўных, а грамадства не хаваецца ад іх.
- арганізацыя жывой музыкі на вуліцы з шэрагам устаноў вулічнага харчавання – каля дзевяціпавярхоўкі (мінірынак).
- стварэнне пляцоўкі для мам і дзяцей. Напрыклад, месца, дзе можна на некаторы час пакінуць дзіця, і за ім будзе сачыць выхавальнік.
- стварэнне арт-аб'екта, які стаў бы фішкай горада, ля якога хацелася б фатаграфавацца.
- стварэнне актыўнасцяў для падлеткаў.
- экалагічныя ініцыятывы. Напрыклад, збор пластыкавых закрутак ад бутэлек.
- стварэнне крэатыўнай карты горада.

Удзельнікі займаюцца распрацоўкай ідэй. Калі ў вас ёсць думкі ці вы гатовыя працаваць над рэалізацыяй ідэй па паляпшэнні Маладзечна, далучайцеся да праекта «Маладзечна гаворыць».

Наступная сустрэча запланаваная на 16 верасня. Падрабязную інфармацыю можна знайсці ў суполцы vk.com/molo.govorit.

**Аддзел інфармацыі.**

# Дэпутаты зацвердзілі Юрыя Горлава старшынёй райвыканкама

МАЛАДЗЕЧНА

**Прадстаўляючы кандыдата на гэту пасаду, старшыня Мінаблвыканкама Анатоль Ісачэнка сказаў, што досвед папярэдніка Горлава Аляксандра Яхнаўца будзе запатрабаваны «на іншай пасадзе абласнога ўзроўню».**




Новы старшыня Маладзечанскага райвыканкама Юры Горлаў.

Новаму кіраўніку, падкрэсліў **Анатоль Ісачэнка**, трэба будзе разабрацца з кіраўнічымі кадрамі. Асаблівая ўвага мусіць быць да кадраў выканаўчай улады, сельскай гаспадаркі, будаўніцтва.

Цяпер, па словах кіраўніка вобласці, настаў час перагледзець планы па Маладзечне, бо на Оршу, Барысаў, Маладзечна асаблівую ўвагу звярнуў **Аляксандр Лукашэнка**. Цяпер у аблвыканкаме занятыя праблемамі ў Барысаве. Прыкладна праз тыдзень можна будзе ўшчыльную пачаць займацца Маладзечанскім раёнам.

**За зацвярджэнне Горлава прагаласавалі 37 дэпутатаў з 37 прысутных.**

**Юрыю Горлаву** 41 год. Нарадзіўся на Браншчыне. Да гэтага часу кіраваў Стаўбцоўскім раёнам. Ёсць у яго біяграфіі і год працы ў нашым рэгіёне. Яшчэ маладым спецыялістам працаваў у калгасе «Бальшавік» Валожынскага раёна галоўным заатэхнікам.

**Галоўнай сваёй задачай Юры Горлаў абазначыў, выступаючы пасля свайго зацвярджэння, работу з людзьмі.**

Анатоль Ісачэнка падзякаваў папярэдніку Горлава за пяць гадоў працы на Маладзечаншчыне, за ўнесены ўклад у развіццё складанага раёна.

**Аляксандр Яхнавец** публічна паабяцаў маладзечанцам, выступаючы з трыбуны сесіі, што не забудзецца пра гэты час:

– Я ўдзячны лёсу, што ён прывёў мяне ў Маладзечна.

**Мікола ГАЙДУК.**

## У рэдакцыю «РГ» паступілі чарговыя пытанні. Адказваем.

**«Чаму ў маладзечанскіх аўтобусах кандуктары няветлівыя, нават хаміць сабе дазваляюць? Куды зніклі кампосцеры, было нашмат зручней».**

Для павышэння якасці абслугоўвання ў Маладзечне пяць гадоў таму вырашылі ўсталяваць кампосцеры ва ўсе аўтобусы. Пасля іх прыбралі.

– Гэта нявыгадна. Пасажыр купляе ў кіроўцы талон і чакае ля кампосцера, пакуль не зойдзе рэвізор. Ён не зайшоў – чалавек з талонам выйшаў. Рэвізор зайшоў – пасажыр адразу прабіў талон, – расказвае дырэктар філіяла «Аўтобусны парк №4» **Раман Гаварко**.

Рэвізоры працуюць на розных маршрутах штодня. Аўтобусы для праверкі абіраюць самі. З-за недахопу кандуктараў некаторыя кіроўцы за даплату прадаюць білеты самі. Таму рэвізоры ў першую чаргу правяраюць такія маршруты.

– Часам кандуктары могуць нахаміць, але ўсё залежыць ад чалавека. І пасажыры бываюць некарэктнымі. Абвінавачваюць кандуктара, што няма аўтобуса, а той ні пры чым. Часта не хочуць браць дробныя грошы, скардзяцца. Але ўявіце, кандуктар вымушаны штодня цягнуць сумку, поўную жалеза. У любым выпадку, каб ён працаваў не кандуктарам, а быў звычайным пасажырам, хто якое мае права абражаць чалавека? – кажа начальнік аўтамабільнай калоны №1 **Сяргей Радына**.

Ён лічыць, што пасажыры павінны быць болей лаяльнымі да аўтапарка.

– Тэлефануюць па некалькі разоў, абвінавачваюць, што не маем кваліфікацыі. Тлумачыш ім, што праблем шмат і вырашыць іх нельга з-за іншых праблем, – не разумеюць. Нават слухаць не хочуць, бо не працуюць у гэтай сферы.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# Шэсць вострых праблем у Маладзечне, якія давядзецца вырашаць новаму старшыні райвыканкама

МАЛАДЗЕЧНА

**Рашэнне аб прызначэнні на пасаду старшынёй Маладзечанскага райвыканкама Юрыя Горлава прыняў Савет дэпутатаў 3 верасня.**

Яму давядзецца вырашаць шэраг пытанняў, якія турбуюць жыхароў. Мы склалі спіс тых, з якімі ў рэдакцыю найчасцей звяртаюцца чытачы.

**1. Аўтобусы.** Апошнім часам маладзечанцы пакутуюць ад недахопу кіроўцаў і своечасовай працы машын па ўсіх маршрутах. Часта аўтобусы не выходзяць у рэйс. Падрабязней пра праблему чытайце ў нашым сённяшнім папяровым нумары газеты.

**2. Праблемы з працай.** Маладзечна пэўны час было лідарам краіны па беспрацоўі. У 2017 годзе сітуацыя статыстычна пачала паляпшацца – раён саступіў месца тром іншым. Аднак сітуацыя застаецца складанай. Тысячы маладзечанцаў вымушаныя ездзіць на працу ў Мінск, таму што ў Маладзечне не хапае годных прапаноў.

**3. Жыллё.** Маладзечна было лідарам па беспрацоўі і пры гэтым займала другую пазіцыю па дарагавізне квадратных метраў. А чэргі на жыллё ідуць на тысячы.

**4. Пытанне з рынкам райспажыўтаварыства** стаіць не адзін год. З аднаго боку, яго месца размяшчэння для многіх зручнае – цэнтр горада, блізка да вакзалаў. З іншага – у базарны дні каля рынку столькі машын, што няма куды ставіць жыхарам дамоў каля яго. Некалькі разоў прэсе паведамлялі, што базар збіраюцца пераносіць у павільёны ГЦ «Спадарожнік».

**5. Бібліятэка.** Столь у будынку цэнтральнай раённай бібліятэкі абвалілася ў 2014 годзе. На рамонт выдзелілі толькі частку патрэбнай сумы. Яе хапіла, каб зрабіць дах. Аднак столь і астатнія работы не атрымліваюць фінансавання чацверты год. Будынак пустуе.

**6. Помнік песняру, класіку беларускай літаратуры Янку Купалу** ўлады абяцалі паставіць у 2011 годзе. Дагэтуль памяць выдатнага дзеяча нацыянальнай культуры не ўшанаваная належным чынам у горадзе сонца.

Пакуль Горлаў кіраваў Стоўбцамі, помнік Якубу Коласу не з'явіўся. Ці з'явіцца пры ім у Маладзечне помнік Янку Купалу, абяцаны восем год таму?

А якія праблемы найбольш вострымі лічыце вы? Пішыце ў рэдакцыю: regionnews@rh.by

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Шукалі повараў, прадаўцоў і ды-джэя: якую працу прапаноўвалі на кірмашы вакансій

ВІЛЕЙКА

**30 жніўня ў Цэнтры занятасці зладзілі чарговы кірмаш вакансій. На мерапрыемстве было нешматлюдна: многія зацікаўленыя ў пошуках цяпер працуюць у сельскагаспадарчых прадпрыемствах: збіраюць камяні, выбіраюць і перабіраюць бульбу.**



У пошуках працы.

### Настаўнікаў у школах Вілейшчыны хапае

Упраўленне адукацыі, спорту і турызму прадстаўляла галоўны спецыяліст **Алена Рослік.**

– Усе школы Вілейшчыны педагогамі ўкамплектаваныя, – распавяла галоўны спецыяліст. – Сёлета прыйшлі працаваць 24 маладыя настаўнікі: 23 – па мэтавых накіраваннях, адзін – самастойна. Сёння на кірмашы мы прапануем вакансію шэф-повара ў гімназію «Логас» і па паўстаўкі педагога сацыяльнага і педагога-псіхолага ў трэцяй школе. Дзве гэтыя пасады можа заняць адзін чалавек. Атрымаецца якраз стаўка.

### Працаваць ды-джэем за 350 рублёў

Прадстаўніца КУП «Садружнасць» шукае повара, прыбіральшчыка, мыйшчыка посуду, прадаўцоў для работы ў гарадскіх крамах і… ды-джэя. «Садружнасць» мае бар у Вілейцы, ды-джэй патрэбны туды. Працаваць трэба па начах – ад дзевяці вечара да апоўначы або ад дзевяці да дзвюх гадзін ночы. Выхадныя – панядзелак, аўторак. Улічваючы своеасаблівы графік, прапанова можа зацікавіць маладых людзей. Заробак абяцаюць – 350 рублёў.

На мінулым кірмашы, што ладзілі ў маі, КУП «Садружнасць» знайшлі прадаўца для рознічнага гандлю. Але дзяўчына папрацавала два месяцы і звольнілася па стане здароўя.

Па словах прадстаўніка арганізацыі, моладзь чамусьці не затрымліваецца на працоўных месцах. Хаця ў «Садружнасці» стараюцца і заробак павышаць, і дысконтную картку з пяціпрацэнтнай зніжкай даць усім супрацоўнікам.

Райспажыўтаварыству патрэбныя прадаўцы ў вясковыя крамы: у Малявічы, Вязынь, Ізбіно, буфетчык у Любань.

### Як уладкавацца на працу чалавеку з інваліднасцю

На кірмаш прыйшоў віляйчанін **Сяргей**. Мужчына мае інваліднасць другой групы. Кажа, што можа працаваць па праграме рэабілітацыі. Мае спецыяльнасць аператара ЭВМ, можа быць таксама ўпакоўшчыкам. Але такіх вакансій на кірмашы не прапануюць.

– Можа б, прадаўцом змог у вёску? – пытаецца ён у прадстаўнікоў «Садружнасці» і райспажыўтаварыства.

Атрымлівае адказ «наўрад ці». Бо працаваць з прадуктамі нялёгка фізічна, часам даводзіцца і скрыні пацягаць. Ды і медкамісія патрэбная.

### Хто на бульбе, хто на камянях

За адведзеную гадзіну кірмаш наведала каля дзесяці чалавек. Гэта, на думку **Алены Сяляўкі**, галоўнага спецыяліста аддзела занятасці, вельмі мала.

– Мы прадбачылі, што людзей будзе няшмат, – кажа яна. – Многіх беспрацоўных аддзел занятасці накіраваў на сезонныя працы. Якраз у гэты час адны бульбу выбіраюць у гаспадарках, іншыя збіраюць камяні. За камяні плацяць 12 рублёў за дзень. Дзякуючы працы на ўборцы і пераборцы бульбы, людзі зарабляюць сабе на зіму гародніну.

Кірмаш і далей будуць праводзіць у абноўленым фармаце: прадстаўнікі арганізацый размесцяцца за сталамі ў фае. Да іх пры патрэбе будуць падыходзіць шукальнікі.

На думку Алены Сяляўкі, гэта лепш, чым збіраць натоўп людзей у зале і па чарзе даваць слова працадаўцам. У фае шукальнік адразу ўбачыць прапановы і зможа тут жа пагутарыць з прадстаўніком арганізацыі.

У наступным квартале зробяць больш кірмаш. Запросяць працадаўцаў з суседняга Маладзечна. Зімой на такія мерапрыемствы прыходзіць больш людзей. Напрыклад, у студзені было каля ста чалавек.

**Аксана ЯРАШОНАК**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.08 | 6.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0735 | **2,1162** |
| Еўра | 2,4205 | **2,4481** |
| Злоты, 10 | 5,6499 | **5,6584** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0468 | **3,0936** |
| Грыўня, 100 | 7,3738 | **7,4501** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **29.08** | **5.09** |
| Еўра | 2.4000/2.4300 | **2.4300/2.4550** |
| Долар ЗША | 2.0550/2.0800 | **2.1000/2.1300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **29.08** | **5.09** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,60** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **5,85** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **14,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,60** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **1,90** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,20** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,45** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,30 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **0,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,39 | **1,20** |
| Бульба, 1 кг | 0,30 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,90** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,95 | **–** |
| Морква, 1 кг | 0,89 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 0,75 | **0,70** |
| Перац, 1 кг | 1,29 | **1,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,50** |
| Часнок, 1 кг | 4,80 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,99 | **3,00** |
| Бананы, 1 кг | 2,29 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 3,30 | **3,20** |
| Грушы, 1 кг | 0,90 | **2,90** |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | **1,00** |
| Кавун, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Ківі, 1 кг | 4,70 | **2,90** |
| Лімоны, 1 кг | 5,69 | **5,60** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,80 | **3,60** |
| Персікі, 1 кг | 2,60 | **2,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 0,50 | **0,70** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Машына прыціснула пакупніка да фуры

ВІЛЕЙКА

31 жніўня на вуліцы Сацыялістычнай увечары жыхар Вілейкі аглядаў машыну, каб набыць яе.

30-гадовы гаспадар «Мазды» паказваў аўтамабіль пакупніку. Машына стаяла перад прыпаркаванай побач фурай.

Пакупнік захацеў паслухаць, як працуе рухавік. Гаспадар, стоячы побач з машынай, завёў яе. Аўтамабіль пачаў рухацца ўперад і прыціснуў пакупніка да фуры.

Гэта адбылося таму, што гаспадар машыны завёў яе пры ўключанай перадачы, растлумачылі ў Вілейскім РАУС.

40-гадовага віляйчаніна з пераломамі і ранамі даставілі ў Вілейскую бальніцу.

## Пагражае дэпартацыя: угнаў машыну ў былой жонкі

ВАЛОЖЫН

Днямі следчыя РАСК завяршылі крымінальную справу супраць грамадзяніна Казахстана, які жыў на Валожыншчыне па часовым дазволе. У чэрвені мужчына ўгнаў машыну ў сваёй былой жонкі.

Пра абставіны справы «Рэгіянальнай газеце» расказала старшы следчы Валожынскага РАСК **Юлія Селятыцкая**:

– У 2014 годзе грамадзянін Казахстана і яго грамадзянская жонка прыехалі на Валожыншчыну. Тут набылі дом. Праз некаторы час разышліся, але працягвалі жыць у адным доме. Штогод ад 2014 мужчыну працягвалі на год часовы дазвол на пражыванне. Каб атрымаць грамадзянства, трэба пражыць у Беларусі сем год.

Былой грамадзянскай жонцы фігуранта сяброўка пазычыла машыну. Жанчына ездзіла на ёй сама, ад былога мужа ключы хавала.

Аднойчы жанчына прыйшла з начной змены, лягла спаць, а ключы ад машыны схаваць забылася. Калі прачнулася, то не ўбачыла ні былога мужа, ні ключоў, ні машыны.

Пабегла да сяброўкі. Жанчыны выклікалі міліцыю. У РАСК завялі справу.

Мужчына прызнаў віну. Дакументы пра злачынства накіравалі ў паспартна-візавую службу Валожына. Магчыма, фігуранта дэпартуюць з Беларусі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Увага! Дзеці»

## ДАІ імкнецца папярэдзіць дзіцячы траўматызм на дарогах

Глядзіце відэарэпартаж з падзеі на rh.by! Адсканўйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: http://bit.ly/akcyjadai

МАЛАДЗЕЧНА

**Напярэдадні Дня ведаў, 31 жніўня, супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі правялі ў Маладзечне акцыю, каб папярэдзіць дзіцячы траўматызм на дарогах. Сустрэча стала часткай спецыяльнага комплекснага мерапрыемства «Увага! Дзеці», якое праходзіла ад 25 жніўня да 5 верасня.**



Дзяржаўтаінспектар АДАІ Маладзечанскага РАУС Сяргей Бартош расказвае маленькаму ўдзельніку пра працу міліцыянера.

– Мэта акцыі – звярнуць увагу дарослых на праблему дзіцячага траўматызму. Рознымі мерапрыемствамі, акцыямі падрыхтаваць дзяцей да навучальнага года, каб яны пасля адпачынку былі больш уважлівыя, узгадалі правілы дарожнага руху, – кажа начальнік аддзялення па агітацыі і прапагандзе ўпраўлення ДАІ УУС Мінаблвыканкама **Алег Цюрын**. – Дзеці менш парушаюць правілы дарожнага руху, калі браць, да прыкладу, мінулы год. У большай ступені яны сталі трапляць у ДТЗ з-за дарослых. Таму акцыя накіраваная на тое, каб дарослых яшчэ раз папярэдзіць.

Дзяржаўтаінспектары сустрэліся з маладзечанцамі на паркоўцы ля гандлёвага цэнтра «Тройка». Маленькія гледачы паўдзельнічалі ў віктарыне па правілах дарожнага руху. Адказалі на шматлікія пытанні.

Віктарыну правялі Алег Цюрын і старшы інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды УДАІ УУС Мінаблвыканкама **Алена Сакалова**.

Кожны атрымаў прыемны падарунак. Дзеці прымералі бронекамізэлькі і каскі, пабачылі спецсродкі, пасядзелі з дзяржаўтаінспектарам АДАІ Маладзечанскага РАУС **Сяргеем Бартошам** за рулём міліцэйскай машыны.

Прысутнічалі і «юідаўцы» – юныя інспектары руху, якія дапамагалі супрацоўнікам ДАІ на працягу сустрэчы.

Дарослых вучылі выбіраць дзіцячае аўтакрэсла і правільна карыстацца ім.

– Галоўны крытэр – не спяшацца дзяцей перасаджваць у крэсла, якое не адпавядае вазе, бо ў кожным аўтакрэсле прадугледжаныя нормы вагі і ўзросту дзіцяці, у якіх ён павінны знаходзіцца, – дае параду прадстаўнік грамадскай арганізацыі Беларускага клуба аўтамотатурызму, эксперт па дзіцячых аўтакрэслах **Сяргей Бельскі**.

На працягу года такія сустрэчы будуць праводзіць у навучальных установах Маладзечаншчыны – як для выхаванцаў дзіцячых садкоў, так і школьнікаў.

У Мінскай вобласці склалася трывожная сітуацыя. На сёння ў 58 дарожна-транспартных здарэннях загінулі сем дзяцей, 58 атрымалі траўмы.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Трэці месяц шукаюць 26-гадовага жыхара Валожыншчыны

ВАЛОЖЫН



У пошукава-выратавальным атрадзе «Анёл» паведамляюць, што да цяперашняга часу пра месцазнаходжанне маладога чалавека нічога невядома.

Валожынскі раённы аддзел Следчага камітэта трэці месяц шукае 26-гадовага жыхара Ракава.

11 чэрвеня 2018 года каля 07:00 пайшоў з дому ў невядомым накірунку **Войцехаў Дзмітры Сяргеевіч** 1992 года нараджэння, які пражывае па адрасе: Мінская вобласць, Валожынскі раён, аграгарадок Ракаў, вул. Радашкавіцкая, д. 31. Спецыяліст па маркетынгу ў ВПУП «Дэполіс» раніцай 11 чэрвеня 2018 года з'ехаў у Мінск, назад не вярнуўся.

У пошукава-выратавальным атрадзе «Анёл» паведамляюць, што да цяперашняга часу пра месцазнаходжанне маладога чалавека нічога невядома. Усіх, хто мае інфармацыю пра зніклага, просяць звязацца па нумарах тэлефонаў ПВА «Анёл»: **7733** (для ўсіх мабільных аператараў), (8-033) **6666-033**, (8-033) **6666-856** альбо па тэлефоне **102**.

**Аддзел інфармацыі.**



## З-за маланкі згарэла некалькі пабудоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Праз навальніцу адбылося некалькі пажараў.**

Ноч ад трэцяга на чацвертае верасня атрымалася напружанай па надзвычайных сітуацыях у Маладзечанскім раёне.

Каля 23:30 загарэлася гаспадарчая пабудова ў Селецах па вуліцы Палявой.

Праз 50 хвілін на «101» прыйшоў яшчэ адзін выклік з Селецаў. Загарэлася іншая пабудова, размешчаная непадалёк ад той, адкуль толькі вярнуліся пажарныя.

Праз дзве хвіліны пасля другога выкліку выратавальнікам паведамілі, што загарэлася пабудова ў вёсцы Пранчэйкава.

Пажары спынілі. Ніхто не пацярпеў. Усе будынкі пашкоджаныя агнём: знішчаныя дахі, пацярпелі сцены.

Меркаваная версія – навальнічны разрад маланкі.

МНС нагадвае, як неабходна сябе паводзіць падчас непагадзі.

**Калі вас заспела навальніца ў доме, кватэры, будынку:**

адключыце ўсе электрапрыборы і выцягніце штэкер вонкавай антэны з тэлевізара, спыніце тэлефонныя размовы;

закрыйце вокны, дзверы і коміны,

не стойце каля акна, печы, каміна, масіўных металічных прадметаў, на даху і на гарышчы, не дакранайцеся да прыбораў ацяплення;

не прымайце ванну, душ, не мыйце посуд.

**Калі вас заспела навальніца на вуліцы:**

зайдзіце ў любы будынак;

не дакранайцеся да сцен;

не карыстайцеся мабільным тэлефонам.

**Калі вас заспела навальніца ў машыне:**

спыніцеся, заставайцеся ў аўтамабілі;

закрыйце вокны, апусціце антэну, заглушыце рухавік і перачакайце навальніцу ў салоне аўтамабіля;

не дакранайцеся да ручак дзвярэй і іншых металічных прадметаў.

**Калі вас заспела навальніца ў лесе:**

трымайцеся далей ад высокіх дрэў, не сядзіце ля вогнішча. Часцей за ўсё маланка ўдарае ў дубы, таполі і вязы, радзей – у бярозу і клён;

хавайцеся паміж нізкарослымі дрэвамі і густымі кронамі.

**Калі вас заспела навальніца на адкрытай мясцовасці (поле):**

не стойце на ўзвышшах, ля апор ліній электраперадачы і пад правадамі. Пашукайце яму або яр. Калі ж ніякіх паглыбленняў паблізу няма – прысядзьце на кукішкі ў позе эмбрыёна, рукамі абхапіўшы калені;

не хавайцеся ў стозе сена, саломы, у ядрах;

не хадзіце басанож і не падымайце над галавой рыдлёўкі, матыкі, косы, вуды. Гэта токаправодныя прадметы.

**Калі вас заспела навальніца на вадаёме:**

выйдзіце з вады, адыдзіце далей ад берага і хавайцеся ў хованцы;

калі вы знаходзіцеся ў лодцы, неадкладна плывіце да берага. Калі гэта немагчыма – асушыце лодку, падніміце ахоўны тэнт, надзеньце сухую вопратку, падкладзіце пад сябе выратавальны камізэлькі або боты;

рыбалку падчас навальніцы неабходна спыніць, бо снасці з'яўляюцца правадніком для электрычнасці.

**Валянціна СОПАТ,**
**Маладзечанскі ГРАНС.**

# Спортам варта займацца з розумам


Фота my-sport-life.com.

**Фізічныя нагрузкі дазваляюць атрымаць прыгожую стройную фігуру і палепшыць здароўе. Але сённяшні свет абмяжоўвае рух. Людзі прыдумалі камп'ютары, аўтамабілі і эскалатары, якія дазваляюць часцей сядзець на месцы. Таму чалавечыя мышцы, створаныя прыродай тысячы гадоў таму для фізічных нагрузак, цяпер працуюць мала.**

Піша Уладзіслава РЫНЕЙСКАЯ.

Калі чалавек вырашыў пачаць займацца, гэта толькі першы крок. Нават самы бяспечны на першы погляд від спорту можа пашкодзіць арганізму. Таму падыходзіць да заняткаў трэба з розумам.

Да прыкладу, чалавек захацеў пайсці ў фітнес-залу, набыў абанемент. Здаецца, займайся, колькі пажадаеш. Але пра што трэба падумаць перад тым, як садзіцца ўпершыню на трэнажор?

Найперш, пра тое, якую нагрузку можна даваць свайму целу.

### Якія бываюць нагрузкі?

Нагрузка дзеліцца на аэробную і анаэробную. Першая ўмацоўвае сардэчна-сасудзістую сістэму. Другая дапамагае развіць мышцы. Нагрузкі трэба даваць адначасова працяглы перыяд. Да прыкладу, за тыдзень у розныя дні можна рабіць дзве-тры сілавыя трэніроўкі і адну-дзве аэробныя.

Калі вы робіце практыкаванні з паўтарэннямі, адбываюцца не проста мышачныя скарачэнні. Заўсёды ёсць крыніцы энергазабеспячэння – тое, чым мышцы сілкуюцца, прадукты распаду, якія трэба ўтылізаваць. Усё кладзецца на транспартную сістэму. Калі сэрца і сасуды не гатовыя, можна атрымаць негатыўныя наступствы.

Мышцы складаюцца з валокнаў. У нетрэніраванага чалавека яны ляжаць хаатычна. Як толькі людзі пачынаюць сістэмна і правільна нагружаць цела, валокны прыходзяць у парадак.

Калі чалавек вядзе «сядзячы» лад жыцця, адпаведна, мала рухаецца, вялікая нагрузка можа яму пашкодзіць.

### Трэба падрыхтаваць арганізм

У многіх ёсць пэўныя супрацьпаказанні для заняткаў фітнесам – хваробы, адсутнасць досведу. У дзіцяці, цяжарнай жанчыны або чалавека ва ўзросце ідзе гарманальная перабудова арганізма. Тое, што падыходзіць для здаровага хлопца, не падыдзе для гэтых катэгорый.

Пачынаць заняткі можна прыкладна з 14 гадоў пад наглядам трэнера. Нельга рабіць гімнастычныя практыкаванні «да апошняга дыхання». Трэба сачыць за нагрузкай.

Сістэма трэніровак дзяўчат увогуле мяняецца на працягу месяца. Гэта залежыць ад гарманальных змен. Яны дазваляюць займацца больш разнастайна і інтэнсіўна. Па такой сістэме трэніруюцца жаночыя алімпійскія зборныя. Арганізм дзяўчыны можна падладжваць пад унутраныя ўсплёскі гармонаў і якасна прагрэсіраваць.

Часта чалавек, які прыйшоў у залу, упэўнены – чым больш ён зробіць, тым хутчэй будзе вынік. Але патрэбная падрыхтоўка. У першую чаргу, сардэчна-сасудзістай сістэмы і звязкавага апарату.

Падрыхтоўчы перыяд арганізма пачаткоўца доўжыцца ад аднаго да шасці месяцаў, калі ён робіць усё правільна.

### Займаюцца за месяц да лета

Тое, што прыходзіць хутка, так і сыходзіць. Калі чалавек скідвае больш за дзесяць кілаграмаў за месяц, ёсць рызыка розных хвароб. Можна «спаліць» мышцы, «выліць ваду» і быццам пахудзець. Класічная тэорыя бодзібілдынгу заключаецца ў тым, каб мець падцягнутыя мышцы ў патрэбнай колькасці і маленькі працэнт тлушчу.



Пры няправільным дазаванні нагрузкі памяншаецца колькасць многіх гармонаў. Гэта правакуе нават такія хваробы, якія не былі вядомыя пару сотняў гадоў таму. Напрыклад, дэпрэсію. Яна назіраецца пры няправільным размеркаванні энергіі. Пры трэніроўцы ідзе ўсплёск эндарфіну, дофаміну – гармонаў, адказных за добры настрой і адчуванне шчасця.

### Чаму ходзяць у залу?

Існуе розная матывацыя для наведвання залы. Спартыўная і мэты больш шырокага плана. Часам людзі ходзяць, каб адпачыць ад цяжкага працоўнага дня. Тады для іх зала з'яўляецца клубам па інтарэсах.

Таксама чалавек прыходзіць «пабудаваць» сваё цела.

Адна з самых распаўсюджаных мэт заняцця фітнесам – зніжэнне адсоткаў тлушчу.

Мышцы і тлушч знаходзяцца ў працэнтных суадносінах у арганізме. Калі чалавек займаецца месяц-два, становіцца на вагі і бачыць мінус пяць кілаграмаў, ён задаволены. Ці добра гэта, адназначна сказаць нельга. Залежыць ад таго, што ён страціў. Калі мышцы – адбываецца парушэнне метабалізму. Адпаведна, кілаграмы «вернуцца». Таму трэба ўважліва сачыць за станам свайго арганізма.




# У Вілейцы ўпершыню правядуць экафестываль

ВІЛЕЙКА

**Экалагічны фестываль пад дэвізам «Абірай і рухайся!» правядуць у межах Еўрапейскага тыдня мабільнасці.**

Тыдзень мабільнасці ў горадзе ўжо ладзілі ў мінулыя гады, а вось экафестываль правядуць упершыню.

Па словах аднаго з арганізатараў фестывалю **Вольгі Шляпо**, да тыдня мабільнасці Вілейка далучылася летась. Еўрапейскі тыдзень мабільнасці накіраваны на тое, каб на гарадскіх вуліцах было больш зеляніны, чыстага паветра, а гараджане менш карысталіся аўтамабілямі.

На Вілейшчыне актывісты развіваюць роварны рух, праводзяць акцыі для раварыстаў, добраўпарадкоўць роварныя сцяжыны.

Падрабязная праграма фестывалю будзе вядомая пазней, але ўжо можна сказаць, што працягнецца ён цэлы дзень.

22 верасня, у сусветны дзень без аўтамабіля, адну з вілейскіх вуліц перакрыюць. Па ёй змогуць ездзіць толькі раварысты.

Увечары зладзяць акцыю «Стань больш заўважным». Удзельнікам дарожнага руху прапануюць абазначыць сябе флікерамі, падсветкай, ліхтарамі. Самаму «заўважнаму» абяцаюць падарунак.

Зладзяць шоу, у якім паўдзельнічаюць аматары бодзібілдынгу. Плануюць таксама канцэрт і дыскатэку.

«Рэгіянальная газета» — інфармацыйны партнёр мерапрыемстваў тыдня мабільнасці ў Вілейцы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Вядомая нямецкая кампанія падарыла «Надзеі» машыну для мыцця падлогі

ВІЛЕЙКА

**Прадстаўнікі вядучага сусветнага вытворцы бытавой тэхнікі з Германіі падарылі дзіцячаму аздараўленчаму цэнтру «Надзея» машыну для мыцця падлогі.**

З дапамогай падарунка прыбіраць лягчэй і хутчэй. У цэнтры машыну будуць выкарыстоўваць для прыборкі спартыўнай залы, залы, дзе праводзяць масавыя мерапрыемствы.

«Надзея» — цэнтр устойлівага развіцця. Таму вельмі важным з'яўляецца эканомны рэжым новай машыны, падчас якога на 40% зніжаюцца спажыванне энергіі і шум.

Прадстаўнік кампаніі правёў майстар-клас для персаналу гаспадарчай службы «Надзеі».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Краязнаўцу адмовілі ў аднаўленні помніка паўстанцам Касцюшкі

АШМЯНЫ

**Краязнаўца з Мядзельшчыны Вадзім Праўрацкі звярнуўся ў Гродзенскі аблвыканкам з прапановай аднавіць у вёсцы Паляны Жупранскага сельсавета помнік паўстанцам Тадэвуша Касцюшкі, што загінулі тут у бітве ў 1794 годзе.**


Фота wilanow-palac.art.pl

Тадэвуш Касцюшка.

30 жніўня **Вадзім Праўрацкі** атрымаў адказ ад галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама.

У лісце паведамляюць, што супрацоўнікі Ашмянскага райвыканкама апыталі вяскоўцаў з Палянаў і высветлілі, што ў 1970-1980 гады помнік прыбралі мясцовыя ўлады, бо той быў моцна разбураны.

Па інфармацыі аблвыканкама, мясцовыя жыхары Палянаў не лічаць патрэбным аднаўляць помнік у іх вёсцы.

Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі – паўстанне 1794 года ў Польшчы, Беларусі і Літве, або польскае паўстанне 1794 года – узброенае выступленне супраць расійскай акупацыі і прускай інтэрвенцыі, за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года і за ажыццяўленне пастановаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладзечанскі гадзіннік ля кінатэатра запрацаваў

МАЛАДЗЕЧНА

**Пачатак восені для маладзечанцаў адзначыўся тым, што адна з «фішак» горада, гадзіннік на «Брадвеі», нарэшце адрамантавалі.**

Цяпер усе табло паказваюць аднолькавы час адначасова, і гэты час правільны.

Некалькі год маладзечанцы і абураліся, і смяяліся з паламанага гадзінніка. Яго размясцілі да рэспубліканскіх дажынак 2011 года як гарадскую адметнасць.

Аднак гадзіннік каля кінатэатра доўгі час працаваў няправільна. На розных табло паказваў розны час, пасля на адным з цыферблатаў адваліліся стрэлкі.

Летась у кастрычніку «Рэгіянальная газета» зноў звярталася да тэмы паламанай маладзечанскай славутасці.

У 2011 годзе падрадчык праекта «Спецбудмеханізацыя» запэўнівала, што гадзіннік праслужыць 20 гадоў. А час павінны карэктаваць аўтаматычна праз спадарожнікі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**



1 верасня маладзечанцы ўжо змаглі звяраць час па гадзінніку каля «Радзімы».

## На Вілейскім вадасховішчы забароняць плаванне на маламерных суднах

ВІЛЕЙКА

На падставе пункта 2 артыкула 29 Воднага кодэкса Рэспублікі Беларусь Вілейскі райвыканкам вырашыў забараніць плаванне на маламерных суднах, за выключэннем вяслярных і маторных маламерных суднаў, магутнасць рухавіка якіх не перавышае 11 кілават (15 конскіх сіл), на Вілейскім вадасховішчы.

Рашэнне ўступіць у сілу пасля афіцыйнага апублікавання, паведамляе Нацыянальны прававы Інтэрнэт-партал.

**Паводле PRAVO.BY.**

## Маладзечанка расказала, як яе дачка трапіла ў гімназію

МАЛАДЗЕЧНА

28 жніўня стала вядома, ці пойдзе дзіця на лінейку ў гімназію 1 верасня.

– Заўтра мы ідзём на лінейку ў шостую гімназію, чым вельмі задаволеныя! – падзялілася радасцю маладзечанка В., мама першакласніцы.

Трапіць менавіта ў шостую гімназію сям'я хацела з-за англійскай мовы і таму, што тут вучыцца старэйшае дзіця. Так, дабірацца будзе далей, чым у школу свайго мікраёна. Але сям'я гатовая да гэтых перашкодаў.

– Пра тое, што будзем вучыцца ў шостай гімназіі, даведаліся 28 жніўня ўвечары, – распавядае наша чытачка. – Тады якраз вывесілі спісы. У нашым класе крыху менш за 30 вучняў.

Мама першакласніцы лічыць, што ў гімназію дачка змагла трапіць таму, што ў чэрвені жанчына адна з самых першых заняла чаргу і ноччу разам з іншымі бацькамі сядзела пад дзвярыма ўстановы.

– Наколькі я ведаю, тых, чые бацькі прыйшлі раніцай, у гімназію не ўзялі, – кажа В.

Пра кампанію набору дзяцей у гімназії «Рэгіянальная газета» пісала сёлета ў чэрвені.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Запрашаюць паўдзельнічаць у флэшмобе на роварах, самакатах і роліках

ВІЛЕЙКА

22 верасня ў 12:00 у гарадскім парку зладзяць флэшмоб. Удзельнікаў збіраюць у 11:30 каля галоўнага ўвахода ў гарадскі парк.

Запрашаюць усіх уладальнікаў экалагічнага транспарту. Прыязджайце на роварах, роліках, скейтбордах, лангбордах, самакатах, электрасамакатах, гіраскутарах, электрамабілях. Запрашаюць дзяцей і дарослых.

Самым яркім і крэатыўным удзельнікам абяцаюць прызы.

22 верасня ва ўсім свеце святкуюць Дзень без аўтамабіля.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Астравеччыне прадаюць былую школу, на Смаргоншчыне – садок

АСТРАВЕЦ
СМАРГОНЬ

Гэта інфармацыя ёсць на сайце Гродзенскага выканкама.

У аграгарадку Тракенікі-1 прадаюць комплекс будынкаў базавай школы і інтэрната, пабудаваныя ў 1961 і 1988 гадах. Кошт – 25 939 рублёў 39 капеек.

У Сыраватках на Смаргоншчыне прадаюць будынак былога дзіцячага садка.

Абавязковая ўмова для будучых уладальнікаў – увесці будынак у гаспадарчы абарот цягам некалькіх год.

**Паводле сайта Гродзенскага аблвыканкама.**

## Вілейскую школу №3 узнагародзілі за лепшае азеляненне і не толькі

ВІЛЕЙКА

Па выніках раённага этапа абласнога агляду-конкурсу на лепшае добраўпарадкаванне і азеляненне тэрыторый школ, гімназій і дзіцячых садкоў сярэднюю школу №3 адзначылі па некалькіх паказчыках.

Яна перамагла ў намінацыях «Лепшае знешняе азеляненне і добраўпарадкаванне», «Лепшае ўнутранае азеляненне і добраўпарадкаванне», а таксама «Тэрыторыя бяспекі».

**Аддзел інфармацыі.**



Фота з сайта школы №3 Вілейкі.

У двары школы №3 Вілейкі.

# Школьнікі рэгіёна замест букетаў дапамаглі хворым дзеткам

**Сёлета многія школьнікі падтрымалі акцыю дабрачыннага фонду «Шанец» «Букет дабрыні».**



Фота забеспячэнне Аленай ГРЫДЗЮШКАЙ.

2 «Д» сярэдняй школы №14 у Маладзечне таксама далучыўся да акцыі «Букет дабрыні».

Ідэя акцыі такая: класу прапануюць не несці настаўніцы 30 букетаў адначасова ад кожнага, а дарыць толькі адзін адразу ад усяго класа. А астатнія грошы – столькі, колькі аддалі б на букет, пералічыць дабрачыннаму фонду на лячэнне хворых дзетак.

Каб дзеткі не ішлі з пустымі рукамі, яны раздрукоўваюць прыгожы сцяжок, на якім напісана «Я дапамагаю дзецям». На фотаздымках клас з такімі сцяжкамі выглядае ярка, а тыя, хто ведае пра акцыю, з павагай глядзяць на адказных школьнікаў.

Задума спадабалася многім бацькам. Перад першым верасня заўсёды і так хапае клопатаў. Зняць з сябе хацця б букет – ужо палёгка. Тым больш, што ўдзел у акцыі ненавязліва вучыць дзіця дабрыні, дабрачыннасці. Хлопчык ці дзяўчынка разумеюць, што, каб дапамагаць, трэба не так і шмат.

Настаўнікам прыемна, што дзеці далучаюцца да важнай справы. Фонд накіроўвае ліст падзякі настаўнікам, дзецям і бацькам. І педагогу не трэба ламаць галаву, куды ж паставіць 30 букетаў.

Лічыце самі. Прыстойны букет перад Днём ведаў каштуе не менш за 10 рублёў. Калі ў класе 25 чалавек, гэта 250 рублёў. Тры класы ў паралелі – атрымліваем 750. Калі далучаюцца ўсе 11 класаў з трыма класамі ў паралелях, то збіраем з адной школы 8250 рублёў.

Калі гэту лічбу памножыць на 14 – колькасць школ у адным толькі Маладзечне, атрымліваем 115500. Больш за 57 тысяч долараў можна сабраць з горада на дабрачыннасць, калі толькі адмовіцца ад кветак ад кожнага вучня.

Простая і прыгожая акцыя з кожным годам здабывае новых прыхільнікаў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# У Смаргонскім прытулку дзяцей збіралі да вучобы разам

**Выхаванцы дзіцячага сацыяльнага прытулку Смаргонскага сацыяльна-педагагічнага цэнтра з нецярпеннем чакалі пачатку навучальнага года, каб падзяліцца ўражаннямі аб праведзеным леце з аднакласнікамі, убачыць настаўнікаў і пахваліцца новымі канцылярскімі таварамі.**

СМАРГОНЬ

У рамках рэспубліканскай акцыі «Збяром дзяцей у школу» ў апошнія дні жніўня з падарункамі наведалася шмат гасцей: дырэктар Смаргонскага раённага аддзялення Беларускага дзіцячага фонду **Наталля Лабейка**, старшыня раённай арганізацыі Беларускага саюза жанчын **Таццяна Копач**, старшыня Смаргонскай арганізацыі Беларускага саюза ваенных маракоў **Уладзімір Казачонак** разам з калегамі, служачыя вучэбнага цэнтра Інстытута пагранічнай службы, дэпутат раённага Савета дэпутатаў **Вольга Токарава**.

Госці падарылі новенькія, з прыгожымі вокладкамі сшыткі і альбомы для рысавання, каляровыя алоўкі, мядовую акварэль, пеналы, ручкі і шмат усяго іншага. Старшакласнікі са сшыткамі яшчэ атрымалі і торбачкі для зменнага абутку ад раённага аддзялення Беларускага дзіцячага фонду, які ў гэтым годзе аказаў дапамогу 56 дзецям з 49 сем'яў на суму 1680 рублёў. Акрамя канцылярскіх тавараў, паважаныя візіцёры ўручылі прадметы першай неабходнасці, садавіну, прысмакі і сокі.

Старшыня раённага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі **Лела Шпак** уручыла дзецям дзённікі. Традыцыя весці дзённік для запісу хатняга задання і раскладу ўрокаў сыходзіць сваімі каранямі ў самы пачатак 20 стагоддзя, і гэта не толькі навучальны атрыбут, але і афіцыйны дакумент вучня. Цяпер хлопчыкі і дзяўчынкі мараць пра добрыя адзнакі.

Смаргонская пагранічная група запрасіла выхаванцаў прытулку ў госці. Дзеці з задавальненнем азнаёміліся з экспанатамі, сабранымі ў музейным пакоі кіналагічнага цэнтра. Уразілі кубкі, дыпломы, узнагароды кінолагаў і іх гадаванцаў, нашыйнікі, ланцужкі і касцюмы, якія выкарыстоўваюцца для дрэсіроўкі сабак. Дзяўчынкі і хлопчыкі з радасцю пазнаёміліся са службовымі сабакамі і прынялі ад службоўцаў падарункі да школы.

Не засталіся ў баку і многія неабыякавыя грамадзяне. Прадстаўнікі адной з суполак Смаргоні ў сацыяльных сетках абвясцілі акцыю, каб сабраць рэчы да школы. Акрамя канцылярскіх тавараў, дзеці атрымалі абутак, адзенне, прадметы гігіены. Некаторыя сродкі пералічылі на дабрачынны рахунак установы, гэтак жа ў пачатку кожнага навучальнага года робіць і Гродзенская абласная арганізацыя Беларускага прафсаюза работнікаў будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў.

Дзякуем за падарункі, якія прынеслі задавальненне і карысць дзецям прытулку і, несумненна, спатрэбяцца на працягу ўсяго навучальнага года.

**Ларыса ТАТАРЫНАВА,**
**дырэктар Смаргонскага СПЦ.**

# Як на выставе ў сталіцы знайшлі кавалачак старой Вілейшчыны

## Вольга Коласава – пра негатывы святара і фатографа Паўла Валынцэвіча

ВІЛЕЙКА

**З фотаздымкамі протаіерэя Паўла Валынцэвіча старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея Вольга Коласава пазнаёмілася некалькі год таму.**



Пачатак 20 стагоддзя. Святар Павел Валынцэвіч са сваёй жонкай.

– Даведалася, што ў Нацыянальным гістарычным музеі ў Мінску ладзяць выставу фотаздымкаў пачатку 20 стагоддзя і што будзе некалькі здымкаў Вілейшчыны, – прыгадвае Вольга Аляксандраўна.

### Убачыла Куранец, Касуту, Рэчкі

Віляйчанка паехала на выставу і, прызнаецца, што адчула шок. Яна не думала, што здымкаў Вілейшчыны будзе так шмат:

– Хаджу па выставе і бачу Касуту, Рэчкі, Куранец у пачатку мінулага стагоддзя.

Вольга Коласава звярнулася да арганізатараў выставы – фатографа **Уладзіміра Суцягіна** і калекцыянераў **Дзмітрыя Сярэбранікава** і **Ігара Сурмачэўскага** – з прапановай правесці падобную выставу ў Вілейскім краязнаўчым музеі.

Пару год таму ў Вілейцы зладзілі і выставу, і творчую сустрэчу з арганізатарамі.

Пасля беларускі фатограф Уладзімір Суцягін сабраў усе шкляныя негатывы, на якіх адлюстраваная Вілейшчына, пачысціў, адсканаваў і на дыску падарыў вілейскаму музею. А тут з гэтых здымкаў зрабілі выставу «Погляд мінулай эпохі», што працавала ўвесь жнівень у выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча.

Больш за 20 фотаздымкаў знаёмілі наведнікаў выставы з гісторыяй Вілейшчыны пачатку 20 стагоддзя.

Аднак за вялікі прамежак часу многія шкляныя негатывы пабіліся.

### Захапляўся пчалярствам, жывапісам, астраноміяй

На Вілейшчыне Павел Валынцэвіч з'явіўся ў 1899 годзе. Ад 6 красавіка ён, псаломшчык Мастаўлянскай царквы Гродзенскага павета, стаў святаром царквы ў Касуце. Валынцэвіч скончыў курс Літоўскай семінарыі. 25 мая яго пасвяцілі ў духоўны сан і прызначылі настаяцелем царквы Святых Апосталаў Пятра і Паўла. Касута стала першым прыходам маладога святара.

Па словах Вольгі Коласавай, Павел Валынцэвіч быў вельмі шматгранны асобай. Ён пісаў карціны, якія адлюстраваны на адным з яго фотаздымкаў.

Таксама Валынцэвіч цікавіўся астраноміяй і прыродазнаўствам, карыстаўся сонечным гадзіннікам і меснавіта па ім выстаўляў час на кішэнным. Сабраў вялікую бібліятэку, якой карысталіся ўсе яго знаёмыя і вернікі. Цікавіўся палітыкай, разводзіў пчол.

### На фотаздымках пазначаў год і месца

Аднак найбольшым яго захапленнем было фатаграфаванне. Гэтай справай айцец Павел зацікавіўся менавіта ў Касуце. Там і пачаў фатаграфаваць.

На самым першым яго фотаздымку – Свята-Петрапаўлаўская царква ў Касуце ў 1900 годзе. Пасля здымаў усё: храмы, вёскі, святы, уборку ўраджаю, будаўніцтва хаты, прыродныя з'явы. Вядомыя некаторыя людзі на старых фотаздымках. Гэта і сам Павел Валынцэвіч са сваёй жонкай, і сям'я куранецкага святара, тагачасная вілейская інтэлігенцыя – ляснічыя, настаўнікі.

– Вельмі каштоўна тое, што на шкляных негатывах фатограф пазначаў год і месца, дзе зроблены здымак. Быццам бы ведаў, што праз стагоддзе гэта спатрэбіцца, – кажа Вольга Коласава. – Дзякуючы подпісам на негатывах устанавілі імя фатографа і многія месцы фатаграфавання.

Фатограф Уладзімір Суцягін даведаўся, што ў Паўла Валынцэвіча былі два фотаапараты. А гэта патрабавала не малых грошай. На думку Суцягіна, здымаў святар прафесійна. Магчыма, заняткі жывапісам давалі яму правільнае, амаль ідэальнае, разуменне кампазіцыі кадра.

Фотаздымкі Паўла Валынцэвіча цяпер будуць захоўвацца ў фондах Вілейскага краязнаўчага музея.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фотаздымкі з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея.**




1900 год. Царква ў Касуце. Самы першы здымак Паўла Валынцэвіча.

# Чаму занядбаныя крэўскія млыны па-ранейшаму вабяць турыстаў

СМАРГОНЬ

**Ва ўсе часы млынарства было запатрабаванай і прыбытковай справай. Таму народны погалас часта прыпісваў тым, хто гэтым займаўся, вялікія багацці.**

А часам у працы млынара бачылі сувязь з нячыстай сілай, якая дапамагала ахоўваць багацці і памнажаць іх недзе ў засакрэчаных месцах, далей ад чалавечага вока. Чарадзейства і сувязь з нячысцікамі прыпісваліся яшчэ і таму, што млыны і гаспадаркі тых, хто іх абслугоўваў, звычайна знаходзіліся адасоблена ад паселішча і нават падаваліся ў разнастайных статыстычных даведніках асобным радком.



Так на пасляваенным фотаздымку выглядаў млын каля Юравай гары ў Крэве.

### Легенды і праўда крэўскіх млыноў

Крэўская зямля захоўвае гісторыі, выдуманыя і рэальныя, звязаныя з млынамі і млынарамі. Некалі рускі пісьменнік Міхаіл Зошчанка ў сваім апавяданні «Вікторыя Казіміраўна» апісаў паляванне салдата Назара Сінябрухава за скарбам крэўскага млынара.

Падчас Першай сусветнай Міхаіл Зошчанка апынуўся ў Крэве. Цяжка сказаць, на праўдзе ці на выдумцы заснаваны змест твора. Магчыма, гэта перапляценне і таго, і іншага, бо пісьменнік мог дадаваць у прыдуманыя распаведы мясцовых жыхароў карцінкі з рэальнага жыцця.

У апавяданні гутарка ідзе пра скарб, схаваны мясцовым млынаром. У яго падчарку закахаўся рускі салдат Назар Сінябрухаў. Юнак хоча знайсці скарб і прысабечыць. Назар сочыць за млынаром, які ідзе да сваёй схованкі. Але па дарозе да патаемнага месца нямецкая куля забівае старога, і тайнік застаецца нераскрытым.

Вядома, што ў пачатку 20 стагоддзя з'явіўся вадзяны млын у маёнтку Чаркасы пад Крэвам. Млын належаў крэўскаму доктару **Мікалаю Крачкоўскаму**, які за працай у мясцовай бальніцы знаходзіў час на гаспадарку. Крачкоўскі гадаваў коней, меў шмат ворнай зямлі і сенакосаў. Памёр доктар у 1927 годзе ад грудной жабы.

### Пра два крэўскія млыны

У нашай мясцовасці здаўна былі распаўсюджаныя вадзяныя млыны, механізмы якіх рухаліся дзякуючы сіле вады. Такі тып збудаванняў для абмалоту збожжа быў на беларускіх землях у 12-13 стагоддзях. Ветракі ж з'явіліся значна пазней, а ў нашай мясцовасці звестак пра іх існаванне ўвогуле не атрымалася знайсці.

Вадзяныя млыны ставілі па берагах рэк. Каб павысіць іх прадукцыйнасць, стваралі штучныя ставы.

З інвентару Крэўскага староства за 1780 год даведваемся, што за замкам над зарослым ставам стаяў млын на адно кола, пабудаваны з часанага дрэва і пакрыты дранкай. Такі ж млын быў над ставам пры мілэнкаўскай дарозе.

Звесткі пра першы, што быў размешчаны бліжэй да замка, знаходзім таксама ў дакуменце за 1827 год, які мае назву «Справа аб складанні планаў і фасадаў старажытных будынкаў па Віленскай губерні і па Вільні». Гэты млын са ставам адлюстраваны на малюнку і ў плане, што прыкладаўся да дакумента. У наш час на месцы, дзе стаяў млын, студэнты-валанцёры з Мінска ўсталявалі інфармацыйны стэнд.

З двух крэўскіх млыноў да нас дайшоў толькі адзін, калі не лічыць таго, што быў пабудаваны ў недалёкіх ад Крэва Чаркасах. Належаў ён Барунскаму аддзяленню Віленскага Свята-Духава манастыра і знаходзіўся ў паўднёвай частцы Крэва, ва ўрочышчы, якое мела назву Лукі.

### Засталіся толькі ставы і падмуркі

У Першую сусветную, калі Крэўская воласць была раздзёртая лініяй фронту, многія млыны былі пашкоджаныя, а некаторыя ўшчэнт разбураныя. З дакумента, які захоўваецца ў Маладзечанскім занальным дзяржаўным архіве і мае назву «Спіс водных млыноў, якія былі знішчаныя ў час сусветнай вайны ў Ашмянскім павеце», даведваемся, што ў Крэўскай гміне былі разбураныя тры млыны: у Крэве, Чаркасах і Багданаўцы. Ад першага застаўся толькі стаў, ад двух іншых – падмуркі.



Рэшткі млына ў Чаркасах, што недалёка ад Крэва.

У пасляваенны час млын у Чаркасах быў адбудаваны гаспадаром наноў. Крэва ж набыло зусім іншае збудаванне для абмалоту збожжа, нашмат большае па памерах, з больш сучасным абсталяваннем і ў новым месцы – ля падножжа Юравай гары. Прынцып яго працы быў ужо зусім не такі, як раней.

### Млын, на якім пілавалі дошкі

Паравы млын пабудавалі ў Крэве пасля Першай сусветнай вайны ля Юравай гары. Гаспадаром яго быў яўрэй **Гурвіч**. На млыне стаяў швейцарскі паравы рухавік. За год тут вышкалі больш за шэсць тысяч цэнтнераў мукі.

Магутнасць рухавіка дазваляла не толькі малоць муку і вырабляць крупы, але і пілаваць дошкі, валіць воўну, выпрацоўваць электраэнергію. Такі млын быў вельмі запатрабаваны сярод жыхароў Крэва і ваколіц.

Крэўскі млын працаваў яшчэ некалькі гадоў пасля Другой сусветнай. Потым яго зачынілі. Апусцелы будынак прастаяў да 1970-х гадоў, пакуль яго не разабралі.

Зачынілі і разбурылі млыны ў Чаркасах і Мілэйкаве. Рэшткі першага і сёння захапляюць сваім маляўнічым выглядам.

Ад крэўскага млына да нашых дзён захавалася толькі задняя мураваная частка, уже таксама даволі занядбаная. Але і яна прыцягвае ўвагу турыстаў , якія прыходзяць да Юравай гары.

А магло ж быць, каб ішлі менавіта да млына. Але ён, як і многія іншыя крэўскія помнікі, застаўся ў мінулым.

**Аляксандр КАМІНСКІ,**
**Крэва.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

---

● КАЛЯНДАР

**7 ВЕРАСНЯ**
Дзень беларускага пісьменства і друку.

**8 ВЕРАСНЯ**
Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў.
**1973.** 45 гадоў з часу перакрыцця ракі Віліі і стварэння самага вялікага ў Беларусі штучнага вадасховішча.
**1873.** Памёр **Яўстах Тышкевіч**, гісторык, краязнаўца, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

**9 ВЕРАСНЯ**
**1951.** Пад Маладзечнам дэсантаваўся **Янка Філістовіч**, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Праз год быў схоплены і ў 1953-м расстраляны.

**11 ВЕРАСНЯ**
**1865.** Нарадзіўся **Яніс Райніс**, латышскі грамадскі дзеяч, паэт, драматург, перакладчык, абараняў інтарэсы беларусаў Латвіі, спрыяў беларускай адукацыі і культуры.
**1913.** 105 гадоў з часу выдання зборніка вершаў **Максіма Багдановіча** «Вянок».
**1918.** 100 гадоў з часу выдання «Беларускай граматыкі для школ» **Браніслава Тарашкевіча** (Вільня).

**12 ВЕРАСНЯ**
**1945.** Нарадзіўся **Рыгор Семашкевіч** (вёска Дамашы Маладзечанскага раёна), паэт, празаік, літаратуразнаўца, крытык.
**125 гадоў** з дня нараджэння **Паўліны Мядзёлкі** (1893 – 1974), беларускай дзячкі культуры. Нарадзілася ў Будславе. Зрабіла значны ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва ў перыяд яго станаўлення. Была ўдзельніцай Віленскага музычна-драматычнага гуртка, Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Яна адной з першых выканала ролю Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы ў 1913 годзе. Стварыла харавыя драматычныя гурткі ў Гродне, Дзвінскай беларускай гімназіі, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, у Будславе. Аўтар успамінаў пра культурнае жыццё Беларусі дарэвалюцыйнага і савецкага часу.
**Сёлета** спаўняецца **525 гадоў** вёсцы Маркава. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1493 год. У 16 стагоддзі ўваходзіла ў Ашмянскі павет ВКЛ. З 1790-х гадоў у складзе Расійскай імперыі. У канцы 19 стагоддзя – мястэчка Вілейскага павета, у якім было каля 570 жыхароў, дзве царквы. У 1921 – 1939 гадах знаходзілася ў складзе Польшчы. Цяпер – цэнтр сельсавета ў Маладзечанскім раёне.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# «Хачу, каб у дачкі была прыгожая мама»

## Жыхарка Маладзечна расказала, як за два гады скінула сорак кілаграмаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Да паўнаты Дыяна Прывалінская была схільная з дзяцінства. Кругленькую аднакласніцу часам дражнілі ў школе. Вельмі выдзялялася яна сярод танклявых дзяўчынак-аднагодак.**

Але ў дзяцінстве Дыяна асабліва на хваліла ся з-за сваёй фігуры. У роднай вёсцы Нястанішкі, што на Смаргоншчыне, бацькі трымалі гаспадарку. Яйкі, малако, свініна – усё было сваё і такое смачнае.

А вага ўсё расла. Пасля школы дзяўчына важыла прыкладна 67 кілаграмаў пры росце 164. У 2011 годзе на трэцім курсе гандлёва-эканамічнага каледжа ў Маладзечне, дзе яна вучылася, была ўжо 90 кілаграмаў.

Выйшла замуж, нарадзіла дачку **Мілану**. Лішнія кілаграмы не сыходзілі нават ад клопатаў маладой мамы. Спачатку вага па-ранейшаму стаяла на лічбе 90. А потым дапаўзла да 104.

У дваццаць з невялікім хвосцікам Дыяна насіла адзенне 58 і 60 памераў.

– Было нязручна ў такой вазе. Моцна пацела. А тут яшчэ дачка падрасла, пачала бегаць. Я прабягу за ёй два крокі – і задышка пачынае даймаць, – прыгадвае Дыяна.

### Дачка па кілаграмах абганяла маму

Аднойчы мая субяседніца вырашыла набыць сабе што-небудзь новенькае з адзення. Пайшла па крамах і зразумела: купіць тое, што падабаецца, з-за асаблівасці фігуры не змажа.

Якраз падчас таго паходу за абноўкамі Дыяна зразумела: трэба худзець. Матывавалі і словы бацькі, які казаў, што дачка па кілаграмах хутка абгоніць маму, якая таксама далёка не худзенькая.

Муж быў супраць, каб Дыяна худзела. Казаў, што жонка са сваімі ста кілаграмамі яго задавальняе.

### З панядзелка...

– Гэта быў 2014 год, восень. Я прачнулася ў панядзелак і сказала сабе «Пачынаю правільна харчавацца», – расказвае гераіня.

Крыху пачытала ў розных крыніцах артыкулы і склала для сябе прыблізны план. Да 12 гадзін дня ела ўсё, што хацела. Раніца не абыходзілася без салодкага, не адмаўлялася таксама і ад вясковых прысмакаў, што прывозілі бацькі. Ела яйкі, свініну.

Адзінае – перастала смажыць прадукты. Запякала ежу або гатавала на пары. Макарону пачала есці раз на тыдзень і толькі з цвёрдых гатункаў пшаніцы. Першая палова дня заканчвалася паўнавартасным абедам.

А пасля 12 абмяжоўвала сябе. На вячэру – варанае нятлустае мяса без гарніру або тварог з яблыкамі. Пасля 18:00 не ела зусім. Магла дазволіць адзін яблык, а таксама чай або каву без цукру. На доўгі час зусім адмовілася ад алкаголю. Гатавала самыя простыя стравы, бо падчас жыцця ў вёсцы не прывыкла да экзотыкі.

Па словах Дыяны, такое харчаванне вымагала затрат часу і грошай:

– Калі хочаш зэканоміць, то будзеш набываць танную макарону. А я купляла дарагую. З мяса курыцы брала грудку, даражэйшую за сцягно, але менш каларыйную. Ды і тварог кожны вечар купляць – таксама адчувальна для кашалька. І часу шмат ішло. Асобна гатавала для дачкі, асобна – для мужа і асобна – для сябе.

### За першы месяц – мінус дзесяць кілаграмаў

У першы месяц правільнага харчавання Дыяна адразу скінула дзесяць кілаграмаў.

– Гэта так класна, калі аднойчы ранкам ты ўстаеш на вагі і бачыш лічбу 90 з хвосцікам замест ста! – не хавае эмоцый Дыяна.

Далей справа пайшла не так хутка. Але кожны месяц два-тры кілаграмы стабільна сыходзілі. Лішнія сорак кілаграмаў Дыяна скідала на працягу двух гадоў. Сёння яна важыць 67 кілаграмаў, аднак самая нізка вага за гэтыя гады – 64.

Як рэагавалі родныя і сябры на такія перамены? Бацька прызнаўся, што сумняваўся ў дачцэ, а цяпер захапляецца яе сілай волі. Знаёмыя здзіўляюцца: «Няўжо гэта ты?!».

Сяброўкі, якія маюць падобныя праблемы, звяртаюцца да Дыяны па дапамогу.



Спортам, каб пахудзець, Дыяна не займалася.



Да...



і пасля.

Дачка не ўпускала магчымасці, каб сказаць маме, што яна прыгожая.

А муж? Дыяна адчула, што ён пачаў раўнаваць. Так і не зразумеў, для каго жонка худзее, калі яго яна задавальняла са сваімі 104 кілаграмамі. Сёння Дыяна з мужам у разводзе, але падтрымліваюць добрыя адносіны.

Спортам, каб пахудзець, мая субяседніца не займалася.

Цяпер стала цяжэй прытрымлівацца здаровага харчавання, бо працуе да шасці гадзін. Вячэрае пазней, чым трэба. Але абірае нізкакаларыйныя прадукты.

– Гляджу на дачку і бачу, што і яна схільная да паўнаты, – кажа маладая мама. – Есць не вельмі добра, але кругленькая.

Тут да размовы далучаецца маленькая Мілана і кажа, што есць яна вельмі добра. Любіць і кашы салодзенькія, і бульбу-фры, і боршч, і бургеры, і пельмені, і свойскія смажаныя яйкі ад бабулі з дзядулем. Пакуль мама не стрымлівае дзяўчынку ў харчаванні.

### Стымулы – дачка і «Рэгіянальная газета»

Дыяна прызнаецца, што настроеная па-ранейшаму сачыць за фігурай. Кажа, што прыемна лавіць на сабе зацікаўленыя мужчынскія позіркі і купляць тое адзенне, якое падабаецца. Галоўны ж стымул пахудзення – дачка Мілана. Хочацца, каб у дзяўчынкі была прыгожая мама.

– А яшчэ адным стымулам для мяне стане публікацыя ў вашай газеце, – прызнаецца Дыяна. – Раз ужо расказала чытачам усяго рэгіёна, як хацела пахудзець і што для гэтага зрабіла, то цяпер буду проста абавязаная па-ранейшаму сачыць за сабой.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Здымкі забяспечаны Дыянай ПРЫВАЛІНСКАЙ.**

● ПРЫВІТАННЕ З В'ЕТНАМА

# Маладзечанка звольнілася з радыёстанцыі і паехала працаваць у В'етнам

МАЛАДЗЕЧНА

**Як Ганна Мажуць трапіла ў гэту краіну і чаму абрала менавіта яе, дзяўчына расказала карэспандэнту «РГ». Расказ пра азіяцкія звычаі быў настолькі захапляльны, што мы вырашылі падрыхтаваць серыю публікацый пра В'етнам.**

У сённяшнім выпуску пачнём з таго, як рашыцца цалкам змяніць сваё жыццё.

### Як маладзечанка ўступіла ў клуб ЮНЕСКА

Калі вучылася ў шостым класе маладзечанскай гімназіі №6, Ганна ўступіла ў Беларускую асацыяцыю клубаў ЮНЕСКА (БелАЮ). Пры гімназіі ад БелАЮ быў клуб «Планета».

У клубе школьнікі працавалі па праграме «Роўны навучае роўнага». Спачатку займаліся з выкладчыкам, пасля пісалі трэнінгі для дзяцей свайго ўзросту і праводзілі іх. Хадзілі, напрыклад, у маладзечанскі інтэрнат для дзяцей, хворых на скаліёз, праводзілі заняткі па здаровым ладзе жыцця. Падчас вучобы ў старэйшых класах ладзілі трэнінгі па канфліктalогіі, ВІЧ-прафілактыцы.

Пазней наведвалі акадэміі, універсітэты і фестывалі ад БелАЮ. Акадэміямі і ўніверсітэтамі называюць спецыяльныя праграмы на 10-15 дзён. Падчас іх з моладдзю працуе трэнер.

Дзякуючы гэтым праграмам дзяўчына паўдзельнічала ў міжнародным абмене з іспанцамі ў праекце «Гаючая магія». Разам яны ездзілі ў рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр псіхічнага здароўя для дзяцей з праблемамі развіцця. Вучылі іх рабіць фокусы, каб развівалася дробная маторыка.

На фестывалі прыязджаюць клубы з розных краін.

– Гэта тыдзень кайфа, крутой моладзі, якая ўвасабляе ўласныя праекты, – гэта незвычайная энергія, – дзеліцца Ганна.

### У Германіі Ганне далі «ўтык»

Пасля школы Ганна паступіла ў БДУ – хацела стаць журналістам. Падчас аднаго з рэпартажаў са старшынёй БелАЮ **Дзмітрыем Субцэльным** зайшла размова пра стажыроўку па журналістыцы ў Германіі. І летась паехала туды.

– Наш нямецкі каардынатар тройчы змагаўся з ракам, пакуль хвароба адступіла. Вось ён даў мне «ўтык». Кажа неяк: «Моладзь, вы мяне бесіце. Я жыў у той час, калі з краіны выехаць было немагчыма. Цяпер для адукацыі стары. Змагаюся за жыццё, як магу. А вы зусім не думаеце пра вучобу за мяжой, пра тое, каб пабачыць свет. Усё дорага, дрэнна», – прыгадвае Ганна. – Гэта праўда, я і сама думала абы ў Мінск паступіць. Адвучуся, а дыплом пасля можа пад халадзільнік пакладу.

У Берліне каардынатар паказаў Ганне, дзе можна атрымаць спіс праектаў, пакінуў шмат спасылак на праграмы для моладзі.

Па словах дзяўчыны, існуе многа праграм, дзякіх можна лёгка далучыцца. Дастаткова зайсці на сайт, выбраць праект, які падабаецца, падаць заяўку. Такіх прапаноў шмат. Ёсць, да прыкладу, еўрапейская валанцёрская служба – EVS, якая аплачвае дарогу да выбранай краіны, харчаванне, пакрывае расходы. Нават арганізоўвае курсы мясцовай мовы.

– Са мной працавалі людзі, якія ў штаце амаль з дня заснавання радыёстанцыі. За мае тры гады яны паспяхова перайшлі на высокія пасады ў буйныя прэс-службы ці цяпер узначальваюць інфармацыйныя аддзелы іншых радыёстанцый. Перспектывы заўсёды былі перад вачыма. Але працаваць 20 гадоў на адным месцы, каб потым сядзець вышэй на другім, не вартае майго часу. Аддаць усё жыццё на працу я не гатовая. Трэба нешта зусім іншае.



Падчас міжнароднага абмену з іспанцамі. Ганна – першая злева ў першым радзе.

### Што такое AISEC?

Пасля стажыроўкі Ганну папрасілі дапамагчы з праектам ад БелАЮ «Замкі Беларусі». Так яна апынулася ў Міры, арганізоўвала для ўдзельнікаў жыллё, харчаванне, графік…

– Пяцёра былі ад моладзевай арганізацыі AISEC: валанцёры з Партугаліі, Турцыі, Егіпта, Кітая. Яны ўпершыню паехалі за мяжу. Выбралі Беларусь, бо не знайшлі пра яе падрабязнай інфармацыі. Яны і расказалі мне пра гэту арганізацыю. Падумала, калі іншыя карыстаюцца, чаму я не магу?

**AISEC – найбуйнейшая ў свеце арганізацыя, якой кіруюць студэнты. Забяспечвае міжнародны абмен па трох накірунках: валанцёрства, IT-стартапы і стажыроўкі.**



Сажалка ў наваколлі Хайфона, раён Ан Дзон.

Менеджар арганізацыі дапамагае падабраць праект. Потым з ім звязваецца прадстаўнік краіны, у якую падаў заяўку. Гутараць па скайпе.

Ганна выбрала працу выкладчыцы англійскай мовы для в'етнамскіх дзяцей, падала заяўкі ў школы, якія шукалі праз AISEC работнікаў.

– Размаўляла па скайпе з трыма школамі. Было цяжка, бо ў Беларусі з В'етнамам чатыры гадзіны розніцы, гутарылі ў пяць раніцы. Неабходна прайсці сумоўе, якое доўжыцца прыкладна паўгадзіны. Падчас гутаркі правяралі, ці ёсць акцэнт, калі размаўляю на англійскай. Мадэлявалі сітуацыі кшталту «што будзеш рабіць з дзецьмі, калі 20 чалавек адразу заплачуць».

### Чаму менавіта В'етнам

Абраць В'етнам Ганне параіў дырэктар AISEC. Яна хацела ў Індыю – краіну мары. Па словах дырэктара, з гэтай краінай заўсёды шмат праблем. Адной з прычын выбару стаў узровень жыцця – у В'етнаме можна нармальна жыць на 200-300 долараў пры заробку ў школе ад 600 да 1500.

Ганна думала і пра Кітай, але чула – там праблемы з легальнай працай, з іміграцыяй. «Цябе могуць наняць, а ў школы не будзе ліцэнзіі. Прыедзе паліцыя, мясцовыя скажуць, што мы яе не ведаем. Задача AISEC праверыць, ці легальна працуе арганізацыя, у якую адпраўляюць.

– Мінус праграмы – трэба ўкласціся. Спачатку заплаціла 250 долараў за паслугі арганізацыі. Набыла візу. Пакінула 300 долараў на першы месяц жыцця. Білет Мінск – Ханой каштуе 450. Калі ляцець да В'етнама з Масквы, гэта на 100-150 долараў танней. Таму брала трансфер да Шарамецьева. Цана – 40 долараў.

Дзяўчына звольнілася і ў лістападзе мінулага года паехала працаваць у В'етнам. Прыгоды пачаліся адразу пасля прылёту…

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота забяспечаны Ганнай МАЖУЦЬ.**

*Працяг чытайце ў наступных нумарах.*

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Чысць» атрымала першую перамогу ў сезоне

МАЛАДЗЕЧНА

**1 верасня чысцінцы прымалі дома пінскую «Хвалю».**

Гаспадары перамаглі з лікам 3:1.

Аўтарам галявога дубля стаў **Іван Верас** – на 18-й і 21-й хвілінах. Трэці гол на рахунку **Аляксандра Ксенафонтава**.

Пасля розыгрышу 20 тура «Чысць» набывае тры ачкі, але застаецца на апошнім, 15-м, радку турнірнай табліцы.

«Хваля» апярэджвае аўтсайдараў на тры пазіцыі.

Гэта першая перамога «Чысці» за ўвесь сезон. Каманду аддзяляе ад Баранавічаў адно ачко.

## «Смаргонь» не адказала «Славіі» на шэсць мячоў

СМАРГОНЬ

**1 верасня каманда гуляла ў гасцях з мазырскай «Славіяй».**

Калі першы тайм яшчэ паказваў гульню, то ў другім мядзведзі прапускалі гол за голам.

Па выніках розыгрышу 20 тура смаргонцы апускаюцца на дзясяты радок турнірнай табліцы.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Ашмяны» разбілі «Горкі»

АШМЯНЫ

**Ашмянцы прымалі гасцей 1 верасня і выйгралі з лікам 5:1.**

Хэт-трык выканаў **Аляксей Скварчэўскі** на шостай, 59-й і 90-й хвілінах.

Дубль забіў **Дзмітры Купнеўскі** на 17-й і 25-й хвілінах.

Па выніках 20 тура «Ашмяны» не мяняюць пазіцыю і займаюць чацверты радок турнірнай табліцы. «Горкі» адстаюць ад ашмянцаў на дзесяць радкоў.

**Аддзел інфармацыі.**

## У дзіцячым цэнтры «Надзея» правялі турнір па міні-футболе пад эгідай УЕФА

ВІЛЕЙКА

**150 футбалістаў прыехалі ў «Надзею» на традыцыйныя футбольныя спаборніцтвы.**

Ад 28 да 31 жніўня тут правялі традыцыйны турнір па міні-футболе сярод дзяцей, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС і аздараўліваюцца ў рэабілітацыйных цэнтрах Беларусі.

Спаборніцтвы ладзяць у рамках адзінага тыдня масавага футбола пад эгідай УЕФА на міні-футбольным полі на стадыёне цэнтра.

У «Надзею» прыедуць каманды з васьмі аздараўленчых цэнтраў. Дзявятай стане каманда «Надзеі».

28 жніўня ў 17:15 адкрылі мерапрыемства. Удзельнічалі прадстаўнікі Беларускай федэрацыі футбола, Дэпартамента па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, Вілейскага райвыканкама.

Самі гульні адбываліся 29 і 30 жніўня. 31 жніўня на ўрачыстым закрыцці арганізатары павіншавалі пераможцаў. Першае месца занялі госці з Брэсцкай вобласці – каманда хлопчыкаў і дзяўчынак з аздараўленчага цэнтра «Колас». Другімі сталі каманда хлопчыкаў і каманда дзяўчынак з «Пціч». А «бронзу» падзялілі хлопчыкі са «Ждановічаў» і дзяўчаты з «Надзеі».

На думку арганізатараў, галоўнае тое, што дзеці з дзевяці аздараўленчых цэнтраў змаглі не толькі паспаборнічаць, але сустрэцца, пазнаёміцца, разам правесці час.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Зялёна-белае дэрбі»

## Маладзечанцы перамаглі асіпаўчан з лікам 2:0

МАЛАДЗЕЧНА

**ФК «Маладзечна» згуляў супраць ФК «Асіповічы» дома на гарадскім стадыёне 1 верасня.**




Мікіта Дудо – лепшы гулец матча па меркаванні балельшчыкаў.

Гульня 20 тура другой лігі прайшла пад шыльдай «зялёна-белага дэрбі» зусім не выпадкова. Дадзеныя колеры – традыцыйныя для абедзвюх камандаў. Перад матчам прыйшлося склікаць сход з удзелам прадстаўнікоў гэтых камандаў, каб вызначыць, у якіх камплектах выходзіць гульцам на поле. Гаспадары абралі зялёныя футболкі і белыя шорты, госці – белыя майкі з зялёнай «шахматкай» і зялёныя шорты. Абодва варатары гулялі ў фіялетавых камплектах.

### Лік адкрылі ў першым тайме

Матч пачаўся са спазненнем амаль на 14 хвілін з-за затрымкі брыгады «хуткай». Сітуацыя для другой лігі не новая. За гэты час на трыбуны падцягнуліся нешматлікія балельшчыкі. Першае верасня на календары, у гадзіну дня многія ў Дзень ведаў занятыя сваімі справамі.

> **Матч можна было паглядзець у інтэрнэце. Трансляцыю арганізаваў ФК «Асіповічы» з выкарыстаннем абсталявання АБФФ і нават з удзелам аб'ектыўнага каментатара, дырэктара гасцей Паўла Астравуха.**

Матч пачаўся. У стартавым складзе маладзечанцаў можна было адзначыць з'яўленне абаронцы **Ягора Матвеева**, дазаяўленага нядаўна. Ён дэбютаваў у мінулым туры ў матчы супраць «Крумкачоў».

ФК «Асіповічы» перад пачаткам сустрэчы займаў шосты радок у турнірнай табліцы. Гульцы актыўна пачалі, неаднаразова правяраючы прафпрыдатнасць галкіпера гаспадароў **Паўла Шчарбачэні**. Апошні дзейнічаў упэўнена ўсю сустрэчу: займаў верныя пазіцыі ў варотах, нядрэнна гуляў на выхадзе.

> **Гаспадары займалі 12 радок у табліцы другой лігі. Яны гулялі ад абароны, імкнуліся не дапускаць памылак і абвастралі гульню на контратаках і небяспечным выкананнем стандартаў, за якія адказваў дасведчаны Алег Страхановіч. Апошняе прынесла плён.**

Пасля розыгрышу штрафнога паблізу варот асіпаўчан на дабіванні самым паваротлівым за ўсіх апынуўся **Сямён Хаткевіч**. Ён адкрыў лік матча – 1-0. Галкіпер гасцей пасля ўзяцця варот даспрабаваў пераканаць галоўнага суддзю, што на ім падчас галявой атакі гаспадары парушылі правілы. Але рабіў гэта так эмацыйна, што атрымаў жоўтую картку.

Пасля гэтага варатар усё ж пакінуў поле на насілках і «Асіповічы» правялі экстранную замену. У першым тайме галоў больш не было.

### Маладзечанцы і атакавалі, і абараняліся

У другім тайме характар гульні амаль не змяніўся. Госці валодалі ініцыятывай. Маладзечанцы імкнуліся атакаваць, але не забывалі і пра абарону. Дзякуючы гэтаму ўдалося захаваць вароты ў недатыкальнасці да самага фінальнага свістка.

У другой палове сустрэчы за ФК «Маладзечна» дэбютаваў дасведчаны паўабаронца **Алег Шкабара**. Ён замяніў на полі Алега Страхановіча. На працягу матча вялікую працу па абвастрэнні гульні ля варот асіпаўчан зрабіў паўабаронца **Мікіта Дудо**. На 81 хвіліне пасля прыгожага вядзення мяча (дрыблінгу) Мікіта ўварваўся ў штрафную гасцей, дзе на ім парушылі правілы гулец асіпаўчан. Суддзя прызначыў 11-метровы ўдар.

Выканаць пенальці ўзяўся па традыцыі **Сяргей Крот**, які выйшаў на поле літаральна за некалькі хвілін да гэтага. Упэўнены ўдар, і галкіпер гасцей вымае мяч з сеткі справа ад сябе кута. 2:0. Апошнія 10 хвілін сустрэчы нічым асабліва не запомніліся, і лік не змяніўся.

> **Перамога для «Маладзечна» стала чацвертай у сезоне пры шасці нічыіх і дзевяці паражэннях. Наперадзе яшчэ дзевяць матчаў. Пры такой гульні, якая была з асіпаўчанамі, колькасць перамог можа і павінна павялічыцца.**

**Дзмітры РУХЛЕВІЧ, Маладзечна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. На працягу апошніх гадоў многія спрачаюцца, ці рэальная яна.
7. З пладоў гэтага дрэва робяць разынкі.
8. Радыёзавод у Маладзечне, што меў шырокую вядомасць у савецкія часы.
13. Прымаўка: лепей дома на саломе, чым … на падушках.
15. Самая моцная мышца.
17. Гэта кветка – сімвал Японіі. На вокладцы японскіх пашпартоў размешчаная выява менавіта яе. А калі гэта кветка сарваная ў дзявяты дзень дзявятага месяца, то валодае магічнай сілай.
19. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
22. Туды восенню хаваюцца матылькі.
24. Ён піша вершы.
26. Кароткая аповесць ці апавяданне з нечаканым фіналам.
27. Як напісаць «сухая трава» чатырма літарамі?
28. Нейкі чалавек, нейкая істота; невядома хто.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. У футболе гэта прызначаюць з адлегласці 11 метраў.
3. Адзінае млекакормячае, якое не ўмее скакаць.
4. Хаця мы мяркуем па-іншаму, але яго сябра ў арыгінале ніколі не казаў «Элементарна».
5. Непрыемнае пачуццё слабасці.
6. Час ад усходу да захаду сонца.
9. Частка неба над лініяй гарызонту.
10. Тое, што прыбаўляецца.
11. Выцягнутыя, з рагавым пакрыццём, бяззубыя сківіцы ў птушак і некаторых іншых жывёл, прыстасаваныя для яды.
12. Цэнтральная частка атама.
14. Будзе дождж – будуць і …
16. Дзяліць на яго нельга.
18. Прылада для падымання цяжараў на невялікую вышыню.
20. Адзіны населены пункт Рытанскага сельсавета Астравецкага раёна, што пачынаецца з двух галосных.
21. Лідар сярод краін па дэмаграфічнай сітуацыі.
23. Дацкі казачнік.
25. У гэтым відзе спорту самы лёгкі мяч.
29. Сігнал трывогі з выпадку бедства.

## Адказы на крыжаванку з №35

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Морс. 3. Бронза. 4. Марка. 6. Лоша. 8. Гвалт. 10. Медавуха. 12. Аўрора. 13. Тыгр. 14. Амазонкі. 15. Стог. 17. Ганец. 23. Аўта. 24. Герб. 25. Крэва. 28. Лясы. 29. Дотык.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Галіна. 5. Сарказм. 7. Гараж. 9. Падарунак. 11. Міраж. 15. Справа. 16. Міліцыя. 18. Кенгуру. 19. Танга. 20. Авечкі. 21. Злоце. 22. Талерка. 26. Салон. 27. Слёзы. 30. Машыніст.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Рэпертуар на верасень



**ДЗЕНЬ АДЧЫНЕНЫХ ДЗВЯРЭЙ (забаўляльная праграма)** 12+
12 верасня – у 18:30

**АДКРЫЦЦЁ 28-га ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА**
**«КАМЕДЫЯ» – 25 ГАДОЎ НА СЦЭНЕ!** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча) 12+, Уладзімір Рудаў
19 верасня – у 18:30

**ДЛЯ СЯМЕЙНАГА ПРАГЛЯДУ**
**«ПАРАСЯ, ЯКОЕ СПЯВАЕ, альбо Нельга нам без сябра»** (музычная казка-жарт у 2-х дзеях) 3+, Сяргей Казлоў
20 верасня – у 18:00

**«АФІНСКІЯ ВЕЧАРЫ»** (сучасная гісторыя) 14+, Пётр Гладзілін
27 верасня – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

**Маладзечна, вул.Чкалава, 7.**
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by.
**www.theatre-modt.by**



## ● ГАРАСКОП 7-13 ВЕРАСНЯ


АВЕН. Цяпер у вас спакойны перыяд, ён спрыяльны для таго, каб павышаць узровень прафесійнага майстэрства, вучыцца, наведваць семінары, курсы, выставы. Але сканцэнтруйцеся на паляпшэнні фінансавага становішча. Калі вы ўсё яшчэ адзінокія, каханне будзе стукацца да вас у дзверы.


**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакаюць перамены, але якімі яны будуць, жыццё пакажа. Старайцеся быць у курсе ўсяго, вам гэта можа спатрэбіцца. Калі няма з кім пагаварыць ці нават проста так, ідзіце, напрыклад, у кафэ і шукайце зносін з незнаёмымі людзьмі.


**БЛІЗНЯТЫ.** Гэта час, калі няма ніводнай думкі, якая б бударажыла фантазію. Стан апатыі карысны для расслаблення пасля нагрузкі, але не ўваходзьце ў яго, лепш плывіце па цячэнні. Цяпер можа адбыцца асэнсоўванне пройдзенага шляху, якое прывядзе да нейкай важнай падзеі.


**ЛЕЎ.** Гэта не лепшы час для пачынанняў, але сказаць як мага больш добрых слоў і падарыць усмешкі людзям, якіх вы любіце, – гэта вы зможаце дакладна. Наперадзе чакаецца паляпшэнне фінансавага становішча, выгадныя прапановы будуць сыпацца як з рога ўсяго многа.


**РАК.** Вы ўдачлівыя, можаце апынуцца ў спрыяльнай сітуацыі, калі будзеце прыслухоўвацца да інтуіцыі і кіравацца сваімі інстынктамі. Калі вы падбіраеце новы аўтамабіль ці шукаеце іншую патрэбную рэч, то дзейнічайце – і вам усміхнецца фартуна.


**ДЗЕВА.** Цяпер немагчымае становіцца магчымым і нашмат бліжэй, чым калі б там ні было. У ваша жыццё можа вярнуцца чалавек, гісторыя з якім яшчэ не закончаная – у яе можа быць працяг. Вам ўдача будзе спадарожнічаць літаральна ва ўсім. Купіце латарэйны білет: можа, фартуна і тут вам усміхнецца.


**ШАЛІ.** Не замыкайцеся ў сабе. Прымайце дапамогу і дапамагайце самі.


**СКАРПІЁН.** Трымайце вушкі на макушцы, каб не заблытацца ў патоку інфармацыі ці не ўгразнуць у чужых інтрыгах, паколькі далёкія ад такога роду дзейнасці. Сваю работу рабіце як мага больш якасна, акуратна і лепш. Гэта ў вашых інтарэсах.


**СТРАЛЕЦ.** У вас шмат часу забіраюць дамашнія праблемы, таму пастарайцеся хаця б не пладзіць іх. Час цікавы. Вы можаце стаць як растратчыкам, так і мільярдэрам.


**КАЗЯРОГ.** Не чакайце хуткага павелічэння даходаў, бяздумна не трацьце грошы. Каб схапіць удачу за хвост, настройцеся на поспех ва ўсіх пачынаннях.


**ВАДАЛЕЙ.** Вашы эмоцыі адаб'юцца на агульным стане вашага здароўя і нават на фізічнай форме. Што рабіць – вы ведаеце.


**РЫБЫ.** З'явіцца цяга да фінансавых эксперыментаў – гэта можа быць як захапленне латарэяй, так і жаданне заняцца работай. І калі латарэяй заняцца можна смела, то ад больш рызыкоўнага і кардынальнага лепш устрымацца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | 4 | 6 | 2 | | | | |
| | 1 | | | | 3 | | 4 | |
| | 2 | 3 | | | 8 | | | 7 |
| 2 | | 7 | 1 | | 5 | 6 | | |
| | | | 9 | | 7 | | | |
| 1 | 6 | | | | | | 5 | |
| 3 | | | 5 | | 4 | | | |
| 6 | 7 | | | | 9 | | 2 | |
| | 8 | 1 | | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## ● НАДВОР'Е

**8 верасня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +17 / +25 | | +16 / +22 | | +15 / +24 | | +15 / +22 | |
| | 741 | ← 4 | 744 | ↙ 2 | 744 | ↙ 3 | 743 | ↘ 4 |
| Вільня | +16 / +22 | | +15 / +22 | | +13 / +20 | | +14 / +18 | |
| | 747 | ← 4 | 750 | ↑ 4 | 751 | ↑ 2 | 750 | → 3 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветру м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.32
Захад 19.47
Даўжыня дня 13.25

Усход 4.12
Захад 19.34
Квадра 1

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +16 / +25 | 752 | ↖ 3 |
| Гродна | +13 / +23 | 758 | ↖ 3 |
| Мінск | +16 / +22 | 744 | ↙ 2 |
| Магілёў | +16 / +26 | 750 | ↖ 3 |
| Брэст | +13 / +18 | 749 | ← 5 |
| Гомель | +16 / +22 | 752 | ← 2 |

## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +2,1°С у 1993 годзе
Максімальная тэмпература +28,8°С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 36,5 мм у 1985 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чытайце праз тыдзень

● Фільтры для вады – гэта неабходнасць ці развод? Разбіраемся з экспертам.



~ От мужиков просто отбоя нет: вечно телефончик просят!!!
При пожаре звонить 101
Телефон не служебными разговорами не занимать!
Game

Фота забеспячэння Марыны ГАНЧАРОВАЙ, Маладзечанскі ГРАНС

Міністэрства надзвычайных сітуацый распрацавала карыкатуры. Каб лепш запаміналася прафілактычная інфармацыя, выратавальнікі выкарыстоўваюць гумар.

## Сустракай восень з «Рэгіянальнай газетай»!

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## У Залессе запрашаюць на прэзентацыю выставы Алега Драбышэўскага

**СМАРГОНЬ**

Прэзентацыю выставы «Водар Радзімы» зладзяць 8 верасня ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Музей-сядзіба М.К. Агінскага». Пачатак а 12-й. Уваход вольны.

Пабачыць жывапіс Алега Драбышэўскага можна ад 1 да 30 верасня. Выстава прысвечаная Году малой радзімы ў Беларусі.

**Паводле oginskizalesse.by.**



## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Самыя правільныя адносіны пачынаюцца зімой. Калі вы спадабаліся адзін аднаму ў кучы адзення, шапцы і з чырвоным носам – гэта дакладна каханне.



## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ АКТЫЎНЫХ ЖЫХАРОЎ

# Што вы маглі б і хацелі зрабіць для развіцця сваёй мясцовасці?

**Сяргей Панцюхоў, трэнер фізкультурна-спартыўнага клуба «Гладыятар», Маладзечна:**

– Хачу ўбачыць цэнтр адзінаборстваў з заламі для барацьбы, кікбоксінга, тайландскага бокса – для трэніровак, правядзення спаборніцтваў. Каб самыя таленавітыя дзеці займаліся там бясплатна. Спадзяюся, што заасфальтуюць дарогі на Лясных.

**Ганна Холад, культурны менеджар, Маладзечна:**

– Ёсць адзін праект, які хочацца рэалізаваць, – аўтэнтычнай беларускай кухні нашага раёна. Таксама ў планах правядзенне рэгулярных «Кірмашоў вакансій» і праекта ў сферы моды.

**Настасся Навіцкая, дырэктар Ашмянскага краязнаўчага музея імя Багушэвіча, Ашмяны:**

– Ператвараю мары ў мэты, разбіваю вялікія планы на маленькія этапы. Хочаш у горадзе тэатральную пляцоўку – запрасі на музейную сцэну Ашмянскі народны тэатр, марыш, каб у музеі было шмат наведнікаў – арганізуй цікавую выставу.

**Ірына Зянько, дырэктар Валожынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі, Валожын:**

– Вельмі люблю сваю малую радзіму. З кожным годам горад становіцца больш прыгожым: чыстыя вуліцы, сквер у цэнтры, мноства кветак. У 2017 годзе адчыніўся фізкультурна-аздараўленчы комплекс з басейнам. Але не хапае парку адпачынку з дзіцячым кафэ.

**Таццяна Цітуленка, начальнік аддзела занятасці ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Вілейскага райвыканкама, Вілейка:**

– Папулярызаваць і прасоўваць здаровы лад жыцця. Цяпер ствараем умовы для веларуху. Устанаўліваем веларкоўкі, хутка ўсталюем карту веларуху.

**Вадзім Праўрацкі, краязнаўца, Мядзел:**

– У Нарачы не хапае працоўных месцаў і дастойнага заробку. Дзве лічбы знаходзяцца ў канфлікце – шалёныя заробкі ў начальства і шалёная лічба дармаедаў у раёне. Бюракратыя з'ела здаровую ініцыятыву жыхароў. Трэба адмовіцца ад сацыялістычных метадаў кіравання.

**Юрась Камандзірчык, разьбяр па дрэве, Мядзел:**

– Зрабіў бы на паўвостраве, дзе раней месціўся замак, макет замка. Выразаў з дрэва месцічаў у іх паўсядзённым жыцці. Паўвостраў можна і трэба развіваць. Макет такі па памеры, каб у вежах маглі месціцца ганчары, рыбакі, разьбяры, кавалі.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№36 (1219) 7.09.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 710. Падпісана ў друк у 9.00 6.09.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.